# Бізнес-клас

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

## Дойчмарка набірае моц

Зараз Германія трывала зніжае дэфіцыт бюджэту з аднаго боку за кошт павелічэння паступленняў у бюджэт, якое склала з пачатку года 7 працэнтаў, з другога боку — за кошт зніжэння дзяржаўных затрат (у сакавіку на 11 працэнтаў параўнаўча з паказчыкам мінулага года). З пачатку 1994 года валютныя рэзервы Германіі павялічыліся на 200 мільёнаў дойчмарак і дасягнулі 119,6 мільярдаў DM.

Тым часам Бундэсбанк знізіў працэнтныя стаўкі на 0,25 працэнта і такім чынам яны вярнуліся да ўзроўню, што быў пяць гадоў таму. Кіраўніцтва банка лічыць гэты крок "рухам да галоўнай мэты — стабілізацыі цэн". Да ведама: у Германіі ўзровень інфляцыі ў 3 працэнты гадавых лічаць занадта высокім. Такую ж аперацыю з працэнтнымі стаўкамі зрабілі цэнтральныя банкі Швейцарыі, Аўстрыі, Нідэрландаў, Бельгіі і Даніі. Верагодна, што ў хуткім часе падобнае рашэнне прымуць ЦБ Італіі і Францыі.

## Польшча чакае бізнесменаў

У сярэдзіне чэрвеня ў Гданьску адбудзецца чарговая X сустрэча ў рамках "Еўрапартэнарыяту" — міжнароднай праграмы, створанай па ініцыятыве Еўрапейскай садружнасці. Дарэчы, нацыянальным саветнікам праграмы абраны прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь, выканаўчы дырэктар Беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін.

Паводле папярэдніх меркаванняў, у акцыі праграмы "Еўрапартэнарыят" прымуць удзел больш як 1500 прадпрыемстваў і фірм Заходняй Еўропы: з Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі, Грэцыі, Ірландыі, Іспаніі, Партугаліі, Францыі і інш. Чакаюць і вялікае прадстаўніцтва з краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Таксама ж шырока будзе прадстаўлены і спектр галін прамысловасці: вытворчасць будматэрыялаў, пластмас, шкла, керамікі, фармацэўтыка, электратэхніка і электроніка, лёгкая прамысловасць і праектаванне будаўніцтва, машынабудаванне, нават тэхнічныя паслугі і навуковыя даследаванні.

Усе прамыславікі і бізнесмены Беларусі, зацікаўленыя ва ўдзеле ў гэтай дзелавой сустрэчы, павінны будуць прайсці адбор удзельнікаў, які праводзіць Саюз прадпрымальнікаў рэспублікі.

## Захад рызыкуе?

Паводле звестак прадстаўніцтваў замежных банкаў у Маскве, прыток іншаземнага капіталу ў Расію значна вырас. Асабліва дакладна перасоўванне фінансаў прыкметна з рынкаў Паўднёвай Амерыкі. Кіраўнік прадстаўніцтва банка CS FIRST BOSTON ацэньвае прамыя інвестыцыі ў дзяржаўныя каштоўныя паперы і акцыі расійскіх прадпрыемстваў у бягучым годзе ў 3 мільярды рублёў. І гэта нягледзячы на тое, што з "замежнага" пункту гледжання расійскія актывы пакуль яшчэ вельмі рызыкоўныя. Але, што больш важна, танныя. Мяркую, гэта той самы выпадак, калі і воцат здаецца салодкім.

МЯСЦОВЫ ЧАС

# Прайдуся па Калініна, звярну на Пралетарскую...

□ Віктар САБАЛЕЎСКІ

У нашым невялічкім, здавалася б, гарадскім пасёлку налічваецца сёння 54 вуліцы, 13 завулкаў, 2 плошчы і нават адзін бульвар. Якія ж у іх назвы?

Ці вабяць яны слых, ці адлюстроўваюць гістарычныя, геаграфічныя, археалагічныя, краязнаўчыя і іншыя асаблівасці нашага раёна, ці адпавядаюць беларускаму каларыту наогул? Над гэтымі пытаннямі і вырашыў я неяк паразважаць, перапісаўшы назвы ўздзенскіх вуліц.

Адразу ж кінулася ў вочы, што пераважная большасць іх, так бы мовіць, "пралетарскага" паходжання. Гэта, зрэшты, характэрна ці не для ўсіх райцэнтраў, абласных гарадоў ды сталіцы Беларусі. Рэдка ў якім больш-менш буйным населеным пункце рэспублікі не сустрэнеш такіх вось, як і ў Уздзе, назваў вуліц: Першамайская, Савецкая, Камсамольская, Кастрычніцкая, Ленінская, Рэвалюцыйная, Інтэрнацыянальная, Пралетарская, "70/50,40 і г.д./ год Кастрычніка", імя Дзяржынскага, Маркса, Энгельса, Калініна, Гагарына, Пушкіна, Маякоўскага, Горкага, і г.д. Няважна, што гэтыя ці іншыя партыйныя, грамадскія дзеячы, пісьменнікі ніколі і блізка ля Узды не былі, магчыма, і не ўяўлялі, нават, што ёсць такі гарадок на свеце белым. Не страшна, што ніякіх рэвалюцый, асабліва пралетарскай актыўнасці, у гісторыі гэтай вуліцы, пасёлка ў цэлым не зафіксавана. Галоўнае было пад час утварэння новых вуліц у тым, каб не адстаць ад моды, пацвердзіць вышэйстаячаму партыйнаму кіраўніцтву сваю высокую прынцыповасць, перакананасць у бясспрэчнасці камуністычных ідэалаў.

Што ж, як сказаў адзін паэт: "Быў век, быў час, была эпоха..." З гісторыі такога факта не выкрасліш, і ці мэтазгодна сёння траціць сродкі на паўсямесныя перайменаванні. У маштабах усёе Беларусі гэта ў такую капейку вылілася б, што на ўсе іншыя патрэбы наўрад ці што засталося б. Варта паклапаціцца пра тое, каб пры ўтварэнні новых вуліц, пасёлкаў і г.д. не паўтараліся старыя памылкі, не з'яўляліся на карце населеныя пункты ці іх часткі /тыя ж вуліцы, завулкі, плошчы/ з нагнаўшымі аскому назвамі.

У гэтым плане Уздзенскі пасялковы Савет народных дэпутатаў разумее сітуацыю. Вось, напрыклад, якія мілагучныя назвы вуліц з'явіліся ў райцэнтры за апошнія тры-чатыры гады: Сонечная, Кветкавая, Вішнёвая, Паркавая, Нёманская, Садовая. Да назваў, якія носяць імя нашых вядомых землякоў /А.Бялевіча, А.Пальчэўскага/, далучыліся новыя, якія, будзем спадзявацца, назаўсёды застануцца на скрыжалях нашай гісторыі: ёсць цяпер у гарадскім пасёлку і вуліцы імя славутага вучонага канца мінулага стагоддзя Я.Наркевіча-Ёдкі, пісьменнікаў-землякоў К.Крапівы, П.Глебкі, самадзейнага кампазітара, заслужанага дзеяча культуры Беларусі П.Шыдлоўскага, воіна-інтэрнацыяналіста У.Астравуха, які загінуў у Афганістане, мясцовага рэвалюцыянера Ф.Пекарэвіча...

А вось плануемы крок, пра які чытачы ўздзенскай раённай газеты даведаліся з нядаўняга інтэрв'ю з намеснікам старшыні Уздзенскага райвыканкама, намеснікам старшыні аргкамітэта па падрыхтоўцы да святкавання 500-годдзя Узды А.К.Малашэвічам, шчыра кажучы, не здаецца мне адзіна правільным. Працытуем урывачак з такога інтэрв'ю:

— Існуе думка перайначыць назву бульвара... /Маецца на ўвазе бульвар імя Дзяржынскага ў цэнтры гарадскога пасёлка — В.С./

— Ёсць прапановы назваць яго "Юбілейны" ў гонар 500-годдзя Узды. Вялікіх пярэчанняў у аргкамітэта няма і, хутчэй за ўсё, так і будзе...

Па-першае, што гэта за ананімныя "існуе думка..." і "ёсць прапановы..." Выразы гэтыя нагамінаюць даўно забыты, здавалася б, стыль добра вядомых кабінетаў. Выключная большасць жыхароў райцэнтра, як і раёна ў цэлым, упершыню пачула пра такія думкі і прапановы толькі са згаданага вышэй інтэрв'ю, нідзе, наколькі нам вядома, у шырокіх масах гэтае пытанне не абмяркоўвалася. Па-другое, ёсць жа ўжо ў г.п. Узда вуліца Юбілейная, навошта яшчэ і бульвар аднайменны? Па-трэцяе, калі ўжо з'явілася жаданне і сродкі змяніць прозвішча "жалезнага Фелікса" на нешта новае, то чаму робіцца гэта вузкім колам асоб, без удзелу тых жыхароў, якім жыць пад новым імем? Ды і грамадскасць усяе Уздзеншчыны, думаецца, магла б падключыцца да такой важнай справы. Час жа яшчэ ёсць...

Такія вось эмоцыі выклікала ў мяне знаёмства з пералікам назваў уздзенскіх вуліц і інтэрв'ю ў раённай газеце.

г.п. УЗДА.

# Вясна патрыярха

— Вясна сёлета выдалася такая, што зімовую шапку можа і да лета не скінеш, — жартуе К.І.Шаплыка. — Яравыя вунь, як скрозь смалу прабіваюцца. Няма цяпла. За свае амаль 50 гадоў старшынёўства цяжка прыпомніць такія скупыя на сонца вясновыя дні.

Так, напрыканцы гэтага года знакаміты Кузьма Іванавіч Шаплыка, старшыня вядомага калгаса "Чырвоная змена" Любанскага раёна адзначыць юбілей, варты самай глыбокай павагі і шчырай удзячнасці. Паўвека назад ён, мужны партызан, абаронца Айчыны, стаў на чале разбуранай, разрабаванай захопнікамі гаспадаркі. Колькі давялося перажыць за гэты час — толькі аднаму яму вядома. Побач з баявымі ўзнагародамі заззялі ўзнагароды за стваральную ў імя простых людзей працу. А вянчае іх вышэйшае званне — Герой Сацыялістычнай Працы.

Не думаў старшыня, што выпрабаванні выпадуць на яго долю цяпер не менш жорсткія, чым у далёкім 1944-м. Але ён трымаецца, сцяўшы зубы, робіць сваю адвечную хлебаробскую справу. Галоўнае — яму вераць людзі, ён заўжды сярод іх, ім Кузьма Іванавіч прысвяціў сваё нялёгкае жыццё, аддае ўсяго сябе.

Сярод мноства сустрэч і самых запамінальных эпізодаў К.І.Шаплыка асабліва выдзяляе жнівень 1979 года. Чарговы раз наведаўся тады ў гаспадарку П.М.Машэраў. Лілі дажджы. На палі нельга было ўбіцца камбайну. Ратаваць збажыну выйшлі жанчыны з сярпамі. Вось да іх, на асушаны тарфянік, і завітаў Пётр Міронавіч. Стаялі на тым полі тры маладыя дубкі. Каля іх і адбылася тая памятная сустрэча. Гаварыў Пётр Міронавіч шчыра пра цяжкасці, пра сялянскую працу, пра тое, што робіцца, каб людзям жылося лепш. Дужа спадабалася, глыбока ўрэзалася ў памяць вясковым кабетам задушэўнасць, даступнасць, прастата Машэрава. І калі гады тры назад нехта з трактарыстаў вывернуў адзін з дубкоў, каб не перашкаджаў разварочвацца агрэгату, жанчыны кінуліся ў поле: "Не чапайце! Хай растуць, як жывая памяць пра Машэрава. Ён быў тут, яны памятаюць постаць яго, голас яго..."

Вось і стаяць моцна, учэпіста тыя дубкі. Як сімвал вечнасці і неадольнасці зямлі нашай, якую так любіў, шанаваў Пётр Міронавіч, якой верна служыць адданы сын яе Кузьма Іванавіч Шаплыка.

М.ШЛОМА.
Фота Анатоля БАСАВА.

РАСКЛАД НА ПАСЛЯЗАЎТРА

# Урокі адмяняюцца!

□ Ірына ЗАВАДСКАЯ, "ЧЗ"

*Аднаго разу ў Эйнштэйна спыталі, як з'яўляюцца вынаходствы, што пераўтвараюць свет. Знакаміты фізік адказаў:*

*— Вельмі проста. Усе ведаюць, што гэта зрабіць немагчыма. Выпадкова знаходзіцца адзін невук, які гэтага не ведае. Вось ён і робіць вынаходствы...*

*ТРИЗ–педагогіка не проста распрацоўвае ўласную методыку выхавання такіх "невукаў", але ўжо ў зусім недалёкай будучыні збіраецца распачынаць ажыццяўленне даўняй мары многіх пакаленняў педагогаў.*

Уявіце, што сярод мноства разнастайных гімназій, каледжаў, ліцэяў і іншых падобных устаноў вы, нарэшце, натрапілі менавіта на тое, што найлепшым чынам адпавядае вашым меркаванням наконт належнай адукацыі. Праўда, разам з мілымі сэрцу "сярэднестатыстычных" бацькоў мовамі і камп'ютэрам тут прадугледжваецца яшчэ і абавязковае ўменне ўпраўляцца з гужавым транспартам... На такіх умовах многія хутчэй за ўсё выберуць свайму вундэркінду звычайную школу — як "найменшае ліха". Зыходзячы з таго, што ўстанова, дзе педагагічны эксперымент дайшоў да навязвання вучню яўна непатрэбных яму рэчаў, наўрад ці занепакоена сапраўдным клопатам пра сваіх выхаванцаў... Дык чаму ж такім поспехам карыстаюцца гімназіі, дзе зусім аднолькава ўкараняецца латынь ці фехтаванне?

У аднаго з аўстралійскіх плямёнаў ёсць цікавы абрад, сутнасць якога зводзіцца да максімальна дакладнай перадачы дзеянняў партовых рабочых. Тыя, хто выконвае "карга" (так называецца абрад), шчыра вераць: чым больш іх магічныя дзеянні будуць падобныя на сапраўдныя, тым хутчэй племя можа разлічваць на з'яўленне разнастайных тавараў, — менавіта ў гэтым не раз пераконваліся дзікуны, назіраючы за грузчыкамі ў порце. Гэтак жа можна сцвярджаць, што навучанне фехтаванню разаўе ў падлетка рыцарскія якасці, а той, хто вывучаў у дзяцінстве латынь, зробіцца другім Пушкіным. Для "агульнага развіцця" ўсё гэта, магчыма, і някепска, але "для жыцця" — проста не патрэбна. Ніхто ж не дадумаецца разгульваць па сучасным горадзе ў шырачэзным сярэднявечным уборы — усе тэтыя многаметровыя плашчы і высокія каўняры сёння не толькі недарэчныя, але і дастаткова нязручныя ў перапоўненым транспарце або гарадскім натоўпе. Між іншым, пачатковая школа, як і шмат дзесяцігоддзяў назад, надае вялізнае значэнне чыстапісанню. Але "новаму пакаленню" намнога больш важна навучыцца добра друкаваць на камп'ютэры, чым умець прыгожа выводзіць літары.

Відавочна, што сённяшняя школа безнадзейна састарэла! Прывычная сістэма, калі настаўнік, нібыта пінгвін, з "дзюбы ў дзюбу" перадаваў гатовыя веды, застаецца ў мінулым. У свеце сёння "круціцца" столькі разнастайнай інфармацыі, што засвоіць яе ўсю ніякаму генію не пад сілу. А нашыя школьнікі па-ранейшаму вызубрываюць неверагодную колькасць фізічных, хімічных і іншых формул, вывучаюць вышэйшую матэматыку — і ў выніку нічога не ведаюць. Усё гэта начыста знікае з галавы адразу ж пасля выпускных экзаменаў, бо аказваецца абсалютна непрыдатным у рэальным жыцці (напрыклад, хто з вас здольны знайсці выкарыстанне лічбе ў ступені дзве трэціх?..). Усе адзінаццаць гадоў школьніку папросту "перастаўляюць ногі" — і ў рэшце рэшт высвятляецца, што ён нават не ўмее прымаць самастойных рашэнняў: як правіла, у канцы падручніка ёсць адказ на любую задачу. Толькі ў жыцці так не бывае...

Айчынная сістэма адукацыі, нягледзячы на бурлівы паток разнастайных наваўвядзенняў, усё яшчэ застаецца падобнай на ціхае балота. "Удасканаленне" школьнай праграмы дадатковымі прадметамі альбо дзяленне навучальнага года на тры чвэрці замест чатырох сутнасці не мяняе. Супярэчлівасці паміж рэальнымі і вучэбнымі каштоўнасцямі, паміж рэальнымі і вучэбнымі задачамі штогод толькі ўзмацняюцца. Хто возьмецца за іх вырашэнне?

У ТРИЗ ёсць такі закон: любое развіццё адбываецца праз узнікненне і пераадольванне супярэчнасцей. Тэарэтычна праблема даўно вырашана: лозунг пра творчае навучанне, як і ўсе лозунгі, набыў шырокую вядомасць і нават паспеў зрабіцца нечым накшталт папулярнага некалі заклiку "Рашэнні чарговага з'езда — у жыццё!". Пра "творчы падыход" у адукацыі спрачаюцца не першы год, але мала хто ясна ўсведамляе, што гэта такое. Аднолькава загадкавай застаецца і фігура творчага настаўніка.

У большасці сваёй настаўнік абсалютна нецікавы для вучня. "Вядома, што гэты чалавек будзе гаварыць сёння, заўтра, паслязаўтра, пасляпаслязаўтра... У вас хопіць цярпення яго слухаць? А што загадаеце рабіць школьніку?" — пытанне гомельскага "трызаўца" Анатоля Гіна, які, дарэчы, якраз і займаецца распрацоўкай ТРИЗ-педагогікі, можна лічыць амаль рытарычным. Для большасці настаўнікаў непахіснай святыняй па-ранейшаму застаецца школьны падручнік — чамусьці заўсёды неверагодна нудная кніга, прычым зусім незалежна ад таго, калі яна была выдадзена — дзесяць год таму або толькі што.

Затое "трызаўскія" падручнікі займальныя, як прыгодніцкія раманы. Але ў бліжэйшай кнігарні вы іх хутчэй за ўсё не знойдзеце. Тыражы гэтых кніжак ніяк нельга назваць масавымі, ды й аўдыторыя, на якую яны разлічаны, таксама вельмі нешматлікая. Выдаюць іх для творчых настаўнікаў самі ж творчыя настаўнікі — з дапамогай рэдкіх прыхільнікаў-энтузіястаў. Кожны школьнік, карыстаючыся, напрыклад, падручнікам па біялогіі В.А.Бухвалава і Ю.С.Мурашкоўскага, зможа адчуць сябе "творцам сусвету", адшукваючы свой адказ на задачы, вырашаныя ў працэсе эвалюцыі. Ці нават паспрабаваць вырашыць праблему, якая прыродзе аказалася "не па зубах".

Сучаснаму чалавеку проста неабходна навучыцца самастойна вырашаць жыццёвыя задачы. Сёння важныя ўжо не толькі веды самі па сабе, але і ўменне ўжываць іх у розных нестандартных сітуацыях. Карыстацца імі так, як раней, магчыма, ніхто яшчэ не карыстаўся. Хто ведае, якія праблемы паўстануць перад чалавецтвам гадоў праз 20?.. А тое, што яны, праблемы, будуць абавязкова — факт бясспрэчны. Як і тое, што іх будзе намнога больш, чым сёння. Наўрад ці варта спадзявацца, што прырода раптам распачне "масавую вытворчасць" геніяў дзеля выратавання чалавецтва ад нявырашаных задач. Вось таму самы час ад ведаў пераходзіць да моцнага мыслення. Канкрэтную інфармацыю падлетак сам знойдзе ў кнігах, калі будзе дакладна ведаць, што яму патрэбна.

Ідэальная мадэль "трызаўскай" школы пазбаўляецца ад жорсткай сістэмы ўрокаў, зададзенага набору прадметаў і прывычных, сфарміраваных па ўзроставаму прынцыпу класаў. Неабходныя веды вучань зможа атрымаць на спецыяльных факультатывах. Асноўная ж мэта педагогаў-"трызаўцаў" — выхаванне вынаходніка, так бы мовіць (паводле іх уласнага вызначэння), "моцнага вырашальніка".

Спецыяльна для дзіцячага садка і пачатковай школы ў ТРИЗ распрацоўваецца і паспяхова ўжываецца методыка развіцця творчай асобы. Для дзяцей больш старэйшага ўзросту таксама ёсць пэўныя напрацоўкі, прычым, далёка не заўсёды слава першаадкрывальнікаў належыць "трызаўцам". У сусветнай педагогіцы існуе мноства разнастайных спосабаў развіваць творчае мысленне ў дзяцей, усё большае распаўсюджванне набываюць навучальныя гульні, у тым ліку і камп'ютэрныя. А вось методыкі развіцця фантазіі і вырашэння задач — гэта так, яны ўжо чыста "трызаўскія".

Ствараючы новую педагогіку, ТРИЗ імкнецца выкарыстоўваць найлепшыя знаходкі айчынных і замежных педагогаў для стварэння ўласнай педагагічнай сістэмы развіцця якасцей творчай асобы, сярод якіх не толькі так званае "моцнае мысленне", але і высокая працаздольнасць, і абавязковае ўменне дабівацца сваёй Дастойнай Мэты... Безумоўна, цяжка адразу паверыць у "прыгожую казку" пра масавую геніяльнасць, але даволі рэальна можна спадзявацца, што няўдачнікаў, прыгнечаных шматлікімі невырашальнымі праблемамі, зробіцца многа менш, таксама як і людзей, у якіх не атрымалася рэалізаваць сябе, што страцілі надзею знайсці сэнс уласнага жыцця. Згадзіцеся, вырашэнне гэтай праблемы не менш важнае, чым выхаванне пакалення вынаходнікаў, здольных вывесці свет на новыя межы...

Існуе даволі распаўсюджаная думка, што асноўныя прычыны дрэннай айчыннай адукацыі — у нізкай зарплаце настаўнікаў, перагружанасці класаў, недахопе навучальных дапаможнікаў. Варта вырашыць гэтыя пытанні — і якасная адукацыя нам забяспечана. Ясна, што без паляпшэння матэрыяльнага становішча сістэмы адукацыі не абысціся, але для прынцыповага змянення айчыннай школы патрэбна прынцыповае змяненне самой сённяшняй педагогікі. Акрамя новых методык, падручнікаў і школ, спатрэбяцца новыя педагогі, якія з'явяцца не заўтра і не паслязаўтра — у колькасці, дастатковай для "рэвалюцыйнага перавароту". Зрэшты, ніякага перавароту і не будзе. ТРИЗ-педагогіка — гэта тое, у што, магчыма, ператворыцца сучасная педагогіка, вырашаючы свае сённяшнія супярэчнасці.

## "З надзеяй на міласэрнасць"

*Пад такім дэвізам 24 мая адбудзецца рэспубліканскі дабрачынны тэлемарафон. Гэту акцыю арганізуе Беларускае рэспубліканскае таварыства "Дзеці ў бядзе", якое створана для дапамогі дзецям, што пакутуюць ад анкалагічных захворванняў.*

Хворым дзецям неабходна лячэнне і аздараўленне за мяжой, дэфіцытныя лекавыя прэпараты, экалагічна чыстае харчаванне. Сродкаў катастрафічна не хапае. Арганізатары тэлемарафона звяртаюцца да беларускіх прадпрымальнікаў і дзелавых людзей, да арганізацый і ўстаноў, да прыватных асоб, да ўсіх, хто праявіць міласэрнасць і прыме ўдзел у правядзенні дабрачыннай акцыі.

24 мая з памяшкання Белдзяржфілармоніі будзе ісці прамая трансляцыя тэлемарафона па Беларускім тэлебачанні і 8-ым камерцыйным канале. У канцэртнай праграме марафона прымуць удзел лепшыя творчыя калектывы рэспублікі і асобныя выканаўцы. Спонсары тэлемарафона змогуць даць у эфір рэкламу свайго бізнесу. Згодна з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Таварыства "Дзеці ў бядзе" ўключана ў пералік тых грамадскіх арганізацый, унесеныя сродкі на рахунак якіх выключаюцца з абкладваемага падаткамі прыбытку прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый.

Разліковы рахунак № 700517 у АКБ "Прыорбанк" г. Мінска, код 749, з паметкай "З надзеяй на міласэрнасць". Валютны рахунак "703592 у АКБ "Прыорбанк" г.Мінска (для даляраў ЗША код 001, для ДМ код 048). Тэлефон (факс) 31-89-00.

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце праастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

Сто артыкулаў

# ДЗЕВЯТЫ КРУГ

*ЖУК Віталь Мікалаевіч працуе ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, з 1990 года супрацоўнік групы па вывучэнню сталінскіх рэпрэсій у Беларусі (1920—пач.50–х гг.) Удзельнік падрыхтоўкі зборніка дакументаў па гісторыі палітычных рэпрэсій. Гэты артыкул з'яўляецца першай аналітычнай работай аўтара.*

Рэпрэсіі... Жудасная, незабыўная старонка гісторыі. Яны абяскроўлівалі Чырвоную Армію яшчэ з часоў грамадзянскай вайны, але раней яны не насілі такога масавага характару, як гэта здарылася ў далейшым — у 2-й палове 30-х гадоў.

Пачаткам жа драмы 1937-1938 гг. паслужыла так званая "змова ваенных". Трактоўка тых падзей не мае адзінай думкі ў навуковых колах, а таму гісторыкі прытрымліваюцца цяпер дзвюх версій, якія адрозніваюцца паміж сабой. Крыніцай першай версіі паслужылі надрукаваныя пасля другой сусветнай вайны (1956 г.) мемуары кіраўніка эсэсаўскай зарубежнай разведкі Вальтэра Шэленберга, згодна з якімі арышт і пакаранне савецкага маршала М.М.Тухачэўскага з'явіліся вынікам спецыяльнай аперацыі, праведзенай бліжэйшым супрацоўнікам Гімлера — начальнікам галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі СС Рэйнхардам Гейдрыхам. Сцвярджаюць, што Гейдрых з ведама Гітлера сфабрыкаваў фальшывае дасье аб супрацоўніцтве Тухачэўскага з нямецкімі ваеннымі коламі і праз прэзідэнта Чэхаславакіі Эдуарда Бенеша пераправіў дасье І.В.Сталіну, пасля чаго адбылася расправа з савецкім ваенным начальнікам. Гэта версія супала з трактоўкай падзей у мемуарах Бенеша, якія паявіліся яшчэ раней — у 1947 годзе. Яна настолькі ўкаранілася, што яе паўтарыў у 1961 годзе на XXII з'ездзе КПСС М.С.Хрушчоў, калі сказаў пра тое, што фальшывыя дакументы пра "змову ваенных" падкінула Сталіну германская разведка. Пасля гэтага даная версія праіснавала ў свядомасці грамадскасці больш як чвэрць стагоддзя.

Разам з тым, сапраўдная гісторыя не такая простая, як яе прадставіў Хрушчоў, ці як яе паказалі Бенеш, Чэрчыль і памочнікі Гімлера.

У апошні час, дзякуючы новым архіўным знаходкам, даследчыкі гэтай праблемы пачалі прытрымлівацца іншай версіі. Як ні парадаксальна, але вытокі яе зыходзяць з усё тых жа мемуараў Вальтэра Шэленберга. Апошні пісаў: "Ад аднаго белагвардзейскага эмігранта, генерала Скобліна, Гейдрых атрымаў звесткі аб тым, што Тухачэўскі, Маршал Савецкага Саюза, удзельнічаў разам з германскім генеральным штабам у змове і меў на мэце звяржэнне сталінскага рэжыму. Гейдрых адразу зразумеў велізарнае значэнне гэтага данясення. Пры ўмелым яго выкарыстанні на кіраўніцтва Чырвонай Арміі можна было абрушыць такі ўдар, ад якога яна не акрыяла б на працягу многіх гадоў". Аднак у асяроддзі нямецкіх разведчыкаў не ўсе былі з гэтым згодны. Янке, які на працягу многіх гадоў з'яўляўся кіруючай фігурай у германскай сакрэтнай службе, прытрымліваўся процілеглай думкі. Ён лічыў, што Скоблін мог весці двайную гульню і што яго паведамленне магло быць сфабрыкавана рускімі і перададзена Скобліным па распараджэнню Сталіна. Янке лічыў, што Сталін меў двайную мэту: ён хацеў аслабіць германскі генеральны штаб, выклікаўшы ў Гейдрыха падазрэнні супраць кіраўніцтва, і ў той жа час ён змог бы выступіць супраць ваеннай апазіцыі, якую ўзначальваў Тухачэўскі. Янке меркаваў, што, улічваючы абстаноўку ўнутры савецкага ўрада, Сталін не хацеў сам пачынаць працэс супраць генералаў і лічыў за лепшае, каб інкрымінуючы матэрыял паступіў з-за мяжы.

Такім чынам, быў пакладзены пачатак яшчэ адной версіі, згодна з якой паўфальсіфікаванае дасье Гейдрыха не было асноўнай прычынай арышту і асуджэння Тухачэўскага і яго саратнікаў, а было ўсяго толькі алібі для Сталіна.

Цяпер даказана, што Скоблін сапраўды з'яўляўся агентам НКУС, а ўспаміны Бенеша не знайшлі свайго дакументальнага пацвярджэння ў архівах Міністэрства замежных спраў.

Думаецца, карані трагедыі савецкага афіцэрскага корпуса знаходзяцца ў бязлітаснай барацьбе за ўладу паміж лідэрамі бальшавіцкай партыі. З разлікам і планамерна знішчаючы партыйную апазіцыю, Сталін адначасова ўважліва сачыў за тым, як паставіцца да ўсяго гэтага армія. Бо многія камандзіры РСЧА паводзілі сябе незалежна і не рабалепствавалі перад Сталіным. Асцерагаючыся "банапартысцкіх імкненняў" вышэйшага каманднага саставу, генсек лічыў армію адзінай рэальнай сілай, здольнай перашкодзіць яму ва ўсталяванні яго асабістай дыктатуры.

Адсюль і прычына яго азіяцкага каварства, накіраванага супраць іншадумства ў радах РСЧА.

Цяпер ужо не сакрэт, што пачатак фальсіфікацыі справы аб "ваенна-фашысцкай змове ў РСЧА" быў пакладзены ў маі 1937 г. Менавіта тады начальнік НКУС па Маскоўскай вобласці А.П.Радзівілаўскі атрымаў указанне ад вышэйшага кіраўніцтва "разгарнуць карціну аб вялікай і глыбокай змове ў Чырвонай Арміі". У той час, а дакладней 6 мая 1937 г., быў арыштаваны камбрыг запасу М.Е.Мядзведзеў. Апошні быў арыштаваны па прамому распараджэнню Наркома ўнутраных спраў СССР М.І.Яжова без якіх-небудзь кампраметуючых матэрыялаў, з разлікам пачаць ад яго раздуванне справы аб ваеннай змове. Перад Радзівілаўскім была пастаўлена задача дабіцца ад падследнага паказанняў аб прызнанні існавання ваеннай змовы ў РСЧА з самым шырокім колам удзельнікаў. Пры гэтым следчым НКУС было рэкамендавана для дасягнення мэты прымяняць розныя метады фізічнага ўздзеяння, не саромеючыся ў іх выбары.

Нядзіўна таму, што ў ходзе далейшых допытаў Мядзведзеў, нарэшце, "сазнаўся" ў наяўнасці змовы і назваў многіх буйных кіруючых работнікаў РСЧА.

На падставе гэтых паказанняў, а таксама паказанняў іншых падследных, у прыватнасці, былых ваенных работнікаў В.К.Путны і В.М.Прымакова, у другой палавіне мая 1937 года была праведзена серыя арыштаў з ліку вышэйшага начальніцкага саставу: 14 мая быў "узяты" камандарм 2-га рангу А.І.Корк, 15 мая — камкор Б.М.Фельдман, 22 мая — камкор Р.П.Эйдэман і Маршал Савецкага Саюза М.М.Тухачэўскі, 28 мая— камандуючы Украінскай ваеннай акругай І.Э.Якір, 29 мая — камандуючы Беларускай ваеннай акругай І.П.Убарэвіч.

Лёс іх быў вырашаны загадзя. 11 чэрвеня 1937 года ўсе гэтыя восем вядомых савецкіх военачальнікаў паўсталі перад судом, абвінавачаныя ў дзяржаўнай здрадзе. Суд быў хуткім і несправядлівым. Тым не менш, падсудным не было адмоўлена ў праве апошняга слова... Убарэвіч гаварыў пра сваю любоў да Радзімы, арміі, пра вернасць партыі, адхіляў прад'яўленыя абвінавачанні ў здрадзе, але прызнаўся ў тым, што прымаў удзел у размовах аб адхіленні Варашылава ад кіраўніцтва Чырвонай Арміяй.

У 23 гадзіны 30 мінут старшынствуючы Спецыяльнай судовай прысутнасці Вярхоўнага суда СССР В.Ульрых зачытаў абвінаваўчае заключэнне, з якога вынікала, што ўсе падсудныя прыгаворваюцца да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

Раніцай наступнага дня прыгавор быў прыведзены ў выкананне, а ва ўсіх акругах і на флатах разгарнулася шырокамаштабная аперацыя па выяўленню "ворагаў народа".

У які ўжо раз запрацаваў магутны дзяржаўны апарат прапаганды. Газеты, радыё штодзённа падагравалі страсці. Усюды гаварылі пра павышэнне пільнасці. У войсках праводзіліся мітынгі, нарады кіруючага саставу, сходы чырвонаармейцаў. У палітаддзелы і іншыя вышэйстаячыя структуры паступалі шматлікія заявы, у якіх называліся асобы, якія мелі тую ці іншую сувязь з "ворагамі народа". Няцяжка здагадацца, што чакала чалавека пасля такіх "характарыстык". "Камандзір 18-й мехбрыгады Грачоў быў цесна звязаны з Убарэвічам, хваліў яго, называючы яго геніем і стратэгам". Такую дэпешу і да яе падобныя не раз пасылаў на імя Варашылава член Ваеннага савета Беларускай ваеннай акругі, армейскі камісар 2-га рангу А.К.Мезіс.

У акругах пачаліся павальныя арышты. Ужо 7 ліпеня 1937 года штаб БВА дакладваў ва Упраўленне па камначсаставу РСЧА аб арышце 31 чалавека з ліку каманднага і начальніцкага саставу. Вядома, што ўжо на наступны дзень пасля арышту Убарэвіча былі арыштаваны начальнік штаба акругі камдыў Б.І.Баброў, яго намеснік палкоўнік А.А.Карпушын, начальнік 3-га аддзела штаба камбрыг І.Н.Крук. Праз некалькі дзён такі ж лёс напаткаў камандзіра 16-га корпуса А.К.Мелік-Шахназарава, камандзіра 2-га корпуса Я.І.Зюнь-Якавенку, камандзіра 3-га кавалерыйскага корпуса Д.Ф.Сердзіча, камандзіра 2-й танкавай брыгады палкоўніка В.В.Фабіцкага, начальніка артылерыйскага забеспячэння Абрамава і інш.

Паводле наяўных у аўтара звестак, з 1 студзеня па 1 лістапада 1937 г. у Беларускай ваеннай акрузе было арыштавана 279 камандзіраў усіх ступеней. Неабгрунтаваныя арышты супраць ваенных кадраў працягваліся і ў 1938 годзе. Як правіла, ім папярэднічалі так званыя ліміты, якія звычайна даваліся распараджэннем па тэлефоне "зверху" ўсім асобым органам НКУС на месцах.

У пагоні за "колькасцю" арыштоўвалі не толькі кадравых ваенных, але і тых, хто ў той ці іншай ступені быў звязаны з ваенным ведамствам. Так, згодна са Справаздачай па Асобаму аддзелу БВА аб дзейнасці агентуры і ліквідаваных контррэвалюцыйных арганізацыях", толькі за два летнія месяцы 1938 г. (чэрвень-ліпень) было арыштавана: а) ваеннаслужачых — 167 чалавек; б) вольнанаёмных — 43 чалавекі; в) акружэнне — 27 чалавек. Усяго: 237 чалавек. Адной з першых ахвяр палітычнага тэрору 1938 г. стаў І.П.Бялоў, камандуючы Беларускай ваеннай акругай, які за-

